Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!



# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Аддзелам Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады (г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на $^1/_2$ г. 2 р. 50 к.

VI-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 6 (80) | 5 красавіка 1930 г. | № 6 (80)

## ЗЬМЕСТ.



## Пастановы VI Усебеларускага Зьезду Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі.

### Паст. 79. Па дакладу т. Жарына аб працы камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі БССР за 1928 і 1929 г.г.

Заслухаўшы справаздачу Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі, VI-ы Ўсебеларускі Зьезд сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі адзначае:

1. За справаздачны тэрмін камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі ў суадпаведнасьці з дырэктывамі Партыі і Ўлады і дырэктывамі V-га Ўсебеларускага Зьезду сталі каранным чынам перабудоўваць сваю працу, каб садзейнічаць і прымаць актыўны ўдзел у сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі на аснове калектывізацыі

батрацтва і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, у выніку чаго за справаздачны тэрмін арганізавана непасрэдна камітэтамі ўзаемадапамогі і пры іх удзеле 1129 рознага роду вытворчых аб'яднаньняў з колькасьцю членаў 35.781.

2. У параўнаньні з мінулымі гадамі павялічыўся насенна-натуральны і грашовы фонд (1927 г.—663.828 р., у 1929 г.—1.196.094 р.), асабліва за лік спагнаньня членскіх уносаў.

3. Значна вырасла колькасьць і якасьць пракатных пунктаў (у 1927 г.—424, у 1929 г.—867), пабудавана 70 кузьняў-майстэрняў для рамонту сельскагаспадарчага інвэнтару, маецца павялічэньне вытворчых прадпрыемстваў (у 1927 г.—347, у 1929 г.—443).

4. Павялічылася колькасна і якасна вытворча-калектыўная дапамога батрацтву і беднаце, сем'ям чырвонаармейцаў, інвалідам, чырвоным партызанам і ўдовам у часы пасеўных кампаній і збору ўраджаю, а таксама пры ўваходзе ў калгасы (у 1927 г. выдана 338 тысяч руб. 97 тыс. гасп., у 1929 г.—476 тыс. руб. 95 тыс. гасп., выдана на каператаваньне пры ўваходзе ў калгасы—14 тыс. руб.).

5. Праароблена работа ў галіне ачысткі нізавых органаў ад сацыяльна-чужых, варожых і іншых элемэнтаў, што скрыўлялі клясавую лінію ў практычнай працы камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

6. Скончыўшыяся перавыбары камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі прайшлі ў асноўным пад знакам удзелу камітэтаў у масавай суцэльнай калектывізацыі батрацтва і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, ачышчэньня нізавых органаў ад сацыяльна-чужых, кулацкіх і іншых варожых элемэнтаў і ўцягненьня ў практычную працу батрацтва, беднаты і клясава-вытрыманых серадн якоў, у выніку чаго новаабраны склад камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі складаецца ў пераважнай частцы з батрацтва-беднаты, калгасьнікаў і серадняцкага актыву.

Разам з тым Зьезд у працы камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі адзначае і наступныя недахопы:

1. Камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі яшчэ не перабудавалі канчаткова сваёй працы ў напрамку поўнага ўдзелу, разам з членскай масай, у сацыялістычнай рэканструкцыі вёскі па шляху шырокага ўдзелу як масавай батрацка-бядняцка-серадняцкай арганізацыі вёскі ў правядзеньні гаспадарча-палітычных і масавых кампаній, як: перавыбары саветаў і каперацыйных арганізацый, хлебазагатоўкі, распаўсюджваньне пазык, пасеўкампаніі, збор экспартнай сыравіны і г. д.

2. У шэрагу сельскіх і раённых камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі мелі месца выпадкі засьмечанасьці кулацкім, чужым і іншым варожым элемэнтам, у сувязі з чым у практычнай працы нізавых органаў скрыўлялася клясавая лінія пры выдачы дапамог і інш.

3. Слабая праверка выкананьня дадзеных дырэктыў па лініі камітэтаў, недастатковая жывая сувязь з мясцамі, прычынай чаго зьяўлялася цякучасьць раённых старшынь і акруговых упаўнаважаных, а таксама перагрузка іх іншай працай.

4. Нездавальняючае прыцягненьне батрацтва і беднаты да практычнай працы камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, адсутнасьць абмеркаваньня галоўных мерапрыемстваў на сходах батрацтва

і групах беднаты перад правядзеньнем іх у жыцьцё; меліся выпадкі несваечасовага забясьпечаньня патрэб беднаты.

5. Слабая работа з актывам, недастаткова разгорнута самакрытыка і сацыялістычнае спаборніцтва паміж камітэтамі узаемадапамогі; адсутнічае праверка выкананьня ўмоў па сацыялістычнаму спаборніцтву, членская маса да гэтай справы ў большай меры ня прыцягнута.

6. Неліквідавана канчаткова запазычанасьць мінулых гадоў, асабліва па насенных пазыках; слабая арганізацыя працоўна-гужавой дапамогі беднаце, сем'ям чырвонаармейцаў, чырвоным партызанам, інвалідам вайны, удовам гэтых груп сялянства, асабліва у час пасеву і збору ўраджаю.

7. Адсутнасьць грамадзкага кантролю і кантролю рэвізійных камісій над працай КСУ і іх прадпрыемстваў, адсутнічаюць у большай частцы прадпрыемстваў вытворчыя нарады і падлік, маюцца выпадкі растрат і безгаспадарнасьці.

У далейшым зьезд пастанаўляе ажыцьцявіць наступныя мерапрыемствы:

1. Буйны рост калгаснага будаўніцтва, пераход на суцэльную калектывізацыю цэлых раёнаў, саветаў, акруг і вялізарны рух батрацтва і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі ў калгасы, палітыка ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе калектывізацыі, каранным парадкам мяняюць задачы і зьмест працы камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі. Узрастаючая ініцыятыва і творчая энэргія батрацтва, беднаты і серадняцкіх мас вёскі ставяць практычную задачу яшчэ большай арганізацыі батрацтва і беднаты вакол пытаньня замацаваньня існуючых калгасаў і мабілізацыі серадняцкіх мас на суцэльную калектывізацыю і ліквідацыю кулацтва, як клясы, а таму Зьезд прапануе Цэнтральнаму Камітэту Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі і яго выканаўчым органам на мясцох прыцягнуць да актыўнага ўдзелу ў справе калектывізацыі сельскай гаспадаркі членскую масу, каранным парадкам перабудаваць усю працу, у асноўным падначаліць усе сродкі пытаньню пераходу на суцэльную калектывізацыю і ажыцьцяўленьню палітыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы.

2. Зьезд лічыць, што камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі ў асноўным выканалі задачу дапамогі батрацтву, беднаце і маламоцнаму серадняцтву, а таксама задачу вытворчага каперавання гэтых груп сялянства і на даным этапе ў мясцох суцэльнай калектывізацыі камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі павінны існаваць ня больш аднаго севазвароту пасьля арганізацыі калгасу, аказваючы дапамогу батрацтву, беднаце, сем'ям чырвонаармейцаў, чырвоным партызанам, інвалідам вайны і ўдовам гэтых груп сялянства. У далейшым камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі павінны перарастаць у іншыя формы грамадзкай арганізацыі—касы узаемадапамогі для непрацаздольных членаў калектывізаванага сялянства, разам з чым сродкі і функцыі камітэтаў перадаюцца ў фонд гэтых кас для дапамогі непрацаздольнаму калектывізаванаму сялянству.

У раёнах і саветах, дзе ўсе сродкі вытворчасьці ў калгасах абагулены, прадпрыемствы, пракатныя пункты, належачыя камітэтам, павінны быць перададзены калгасам, паводле адпаведнай ацэнкі за плату. Зьезд даручае Цэнтральнаму Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі разам з Калгасцэнтрам распрацаваць канкрэтныя паказаньні для ажыцьцяўленьня гэтага мерапрыемства.

3. Пасеўкампанія гэтага году набывае вельмі важнае палітычнае значэньне, ад яе пасьпяховасьці будзе залежыць замацаваньне буйнага росту індустрыялізацыі краіны і сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі на аснове калектывізацыі; а таму, у сувязі з надзвычайнай важнасьцю гэтага пытаньня, Зьезд прапануе раённым і сельскім камітэтам узаемадапамогі і заклікае батрацтва, беднату і серадняцкі актыў прыняць актыўны практычны ўдзел у выкананьні плянавых заданьняў сельскагаспадарчай кампаніі праз пашырэньне плошчы засеву, пашырэньне контрактацыі ўсіх відаў, ачыстку насеньня, абагуленьне насенных фондаў, барацьбу з разбазарваньнем жывёлы, збор попелу, праз дапамогу калгасам у арганізацыі конна-машыных станцый, згуртаваўшы ўсю ўвагу і творчую ініцыятыву батрацтва і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі на ажыцьцяўленьні лёзунгу Партыі аб ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.

4. Зьезд прапануе камітэтам сялянскіх таварystваў узаемадапамогі ў сваёй штодзённай працы праводзіць чоткую клясавую лінію, прыстасоўваючы і накіроўваючы сваю дзейнасьць і сродкі да запатрабаваньняў галоўным чынам батрацтва і беднаты, праводзячы жорсткую барацьбу з выпадкамі парушэньня клясавай лініі пры дачы дапамог, капераваньні, выдачы справак і г. д., у сувязі з чым кожнаму сельскаму і раённаму камітэту галоўныя мерапрыемствы трэба папярэдне абмяркоўваць на сходах батрацтва і групах беднаты.

5. Зьезд надае надзвычайную ўвагу справаздачна-праверачнай і перавыбарнай кампаніі саветаў і прапануе Цэнтральнаму Камітэту і яго органам на мясцох прыняць самы актыўны ўдзел, дапамагаючы выбарным камісіям выяўляць асоб, якія скрыўляюць лінію Партыі і Ўраду; камітэты павінны мабілізаваць вакол гэтай кампаніі батрацка-бядняцкія і серадняцкія масы для дачы рашучага адпору кулацкім і варожым элемэнтам, пашырыўшы батрацка-бядняцкае ядро ў саветах для таго, каб яны зьяўляліся сапраўднымі органамі дыктатуры пралетарыяту, ажыцьцяўлялі палітыку Партыі і Ўраду для ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе калектывізацыі батрацтва і бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

6. Для палепшаньня эканамічнага становішча камітэтаў сялянскіх таварystваў узаемадапамогі, каб павялічыць матарыяльную дапамогу батрацтву і беднаце, Зьезд прапануе раённым і сельскім камітэтам узаемадапамогі на працягу месяца ліквідаваць усю запазычанасьць насенную і грашовую, для чаго правесьці шырокую растлумачальную працу сярод членаў таварыства, прыцягнуўшы да практычнай працы батрацтва і бядняцка-серадняцкія масы, практыкуючы выдзяленьне ўдарных брыгад з беднаты і батракоў для ўзысканьня насенна-натуральнай і грашовай запазычанасьці, ужываючы да злосных няплатнікаў апроч мер таварыскага ўзьдзейнічаньня судовыя ўзысканьні.

7. Адзначаючы выпадкі неакуратнай выплаты камітэтамі сваёй запазычанасьці крэдытным органам, прапанаваць раённым і сельскім камітэтам узаемадапамогі на працягу месяца ліквідаваць усю пратэрмінованую запазычанасьць і ў далейшым ні ў якім разе не дапушчаць пратэрміновак, ліквідаваўшы выпадкі скарыстаньняў крэдытаў не па прызначэньні.

8. Маючы на ўвазе, што пры перавыбарах пераважная частка складу камітэтаў сялянскіх таварystваў узаемадапамогі абнавілася, галоўным чынам, за лік беднаты і батрацтва, у сувязі з чым Зьезд даручае Цэнтральнаму Камітэту Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі

ў бягучым годзе правесьці мерапрыемствы па падрыхтоўцы камітэцкага актыву праз арганізацыю курсаў.

9. Зьезд прапануе раённым камітэтам і акрупаўнаважаным зьвярнуць увагу на перабудаваньне сваёй працы ў напрамку якаснага палепшаньня кіруючай працы і практычнай дапамогі праз праверку выкананьня дадзеных дырэктыў і на работу з актывам. Асноўным мэтадам ажыцьцяўленьня камітэцкай працы зьяўляецца разгортваньне самакрытыкі, сац. спаборніцтва, праверка выкананьня заключаных умоў і практычная дапамога з боку райкамітэтаў і акрупаўнаважаных.

10. Улічваючы адсутнасьць сталай справаздачнасьці і рэвізіі работы нізавых органаў камітэтаў сялянсхіх таварыстваў узаемадапамогі, у выніку чаго меліся выпадкі растрат і безгаспадарлівасьці, Зьезд прапануе для ўстанаўленьня жорсткага грамадзкага кантролю над гаспадарчай дзейнасьцю камітэтаў ня менш двох разоў у год кожнаму камітэту рабіць справаздачу аб дзейнасьці перад членамі таварыства, з судакладамі рэвізійнай камісіі, вядучы самую бязьлітасную барацьбу з растратамі, безгаспадарлівасьцю і злачынствамі.

11. Зьезд ухваляе мерапрыемствы Ўраду аб утварэньні фонду дапамогі пры камітэтах узаемадапамогі жанчынам-батрачкам, бядняччкам, калгасьніцам на выпадак цяжарнасьці і радоў і даручае Цэнтральнаму Камітэту Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі і яго органам на мясцох шырока папулярызаваць гэта мерапрыемства сярод батрацтва, беднаты, сераднякоў і калгасьнікаў дабіўшыся іх актыўнага ўдзелу ў гэтай справе.

12. Камітэтам больш шырока разгарнуць справу дапамогі культурна-бытавым установам калгасаў і вёскі, зьвярнуўшы ўвагу на арганізацыю і своечасовае скарыстаньне фондаў дапамогі вучням з беднаты, на арганізацыю ясьляў, лікпунктаў і г. д., выдзяляючы на гэту мэту адпаведныя сродкі.

13. Адзначаючы, што да гэтага часу гарадзкія і местачкавыя камітэты ўзаемадапамогі знаходзіліся без належнага кіраўніцтва і кантролю, у сувязі з чым у іх працы маецца шэраг нездаровых зьявішчаў, як: засьмечанасьць клясава-чужым, нэпманскім і кулацкім элемэнтам, яўнае скрыўленьне клясавай лініі (Віцебск), недастатковая ўвага на разгортваньне вытворчай дапамогі працоўнай беднаце нацменшасьцяй, накіраваньне сваёй працы толькі на адчыненьне гандлёвых прадпрыемстваў.

У сувязі з тым, што Цэнтральны Камітэт Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі ўзяў пад сваё кіраўніцтва ўсе гарадзкія і местачковыя камітэты, даручыць Цэнтральнаму Камітэту зьвярнуць асаблівую ўвагу на дзейнасьць гарадзкіх і местачковых камітэтаў, прыняўшы адпаведныя меры да ачысткі гэтых камітэтаў ад чужых, нэпманскіх і кулацкіх элемэнтаў, накіраваўшы дзейнасьць гарадзкіх і местачковых камітэтаў на разгортваньне вытворчых прадпрыемстваў, аказаньне вытворчай дапамогі беднаце, капераваньне працоўнай беднаты ў вытворчыя і саматужныя аб'яднаньні, уцягненьне ў калгасы, на стварэньне вакол камітэтаў грамадзкай думкі для ажыцьцяўленьня ўсяе працы іх, уцягнуўшы ў таварыства працоўную беднату ўсіх нацыянальнасьцяй гораду і мястэчка.

Перавыбарная кампанія гарадзкіх камітэтаў павінна прайсьці пад лёзунгам пралетарызацыі кіруючых органаў камітэтаў, ажыўленьня працы камітэтаў, ачысткі камітэтаў ад клясава-чужых элемэнтаў.

14. У сувязі з шпаркім тэмпам калектывізацыі вёскі, Зьезд зьвяртае асаблівую ўвагу раённых і сельскіх камітэтаў на працоўнае ўстройства інвалідаў, асабліва інвалідаў грамадзянскай вайны, у калгасы, саматужную капярацыю і дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы, скарыстоўваючы іх на працы, якую яны змогуць выконваць.

15. Раённым і сельскім камітэтам узмацніць нагляд і ўдзел у справе заключэньня ўмоў з батракамі ў кулацкіх гаспадарках, вядучы рашучую барацьбу з выпадкамі заключэньня кабальных умоў.

16. Надаючы вялікае значэньне справе збору другараднай экспартнай сыравіны, у чым камітэты павінны адыграць відную ролю, Зьезд прапануе ўсім раённым і сельскім камітэтам сялянскіх таварystваў узаемадапамогі шырока разгарнуць працу па збору утыльсыравіны, даючы канкрэтныя заданьні асобным камітэтам, склаўшы вакол гэтага пытаньня грамадзкую думку.

17. Зьезд пацьвярджае пастанову ІІ-га Пленуму Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі аб пабудове баявога самалёту: „Сялянская ўзаемадапамога Беларусі“ і прапануе раённым і сельскім камітетам шырока разгарнуць дабравольны збор сродкаў сярод членаў таварystваў з такім разьлікам, каб у бліжэйшы час пастанова Пленуму была ажыцьцёўлена. Разам з гэтым раённым і сельскім камітэтам шырока разгарнуць працу па ўнядрэньню сярод членскай масы вайсковых ведаў.

Старшыня VI Усебеларускага Зьезду Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі *Л. Жарын.*

Сакратар VI Усебеларускага Зьезду Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі *П. Асіпчык.*

25 лютага 1930 г.
г. Менск.

**Паст. 80. Па дакладу т. Рачыцкага аб сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і задачах камітэтаў сялянскіх таварystваў узаемадапамогі.**

Заслухаўшы даклад т. Рачыцкага аб сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі і ўдзеле камітэтаў сялянскіх таварystваў узаемадапамогі у гэтай справе, VI Усебеларускі Зьезд сялянскіх таварystваў узаемадапамогі адзначае, што XVI-ая партканфэрэнцыя і XII Зьезд КП(б)Б у сваіх пастановах яскрава вызначылі шляхі і напрамак сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі на аснове калектывізацыі батрацтва і бядняцка-серадняцкіх гаспадарак на вёсцы.

Буйны рост суцэльнай калектывізацыі вёскі, які перавышае плянавыя меркаваньні Ураду, сьведчаць аб тым, што сьледам за бядняцкімі гаспадаркамі вёскі пайшла ў калгасы асноўная маса сялянства-серадняцтва, якія відавочна пераканаліся ў перавазе каляктыўных форм землякарыстаньня.

Маючыйся пералом у адносінах бядняцка-серадняцкай часткі сялянства да калгасаў ёсьць вынік правільнай палітыкі Партыі на вёсцы, узмацненьня кіруючай ролі рабочае клясы над асноўнай бядняцка-серадняцкай масай сялянства і ўзмацненьня вытворчых форм сувязі рабочае клясы з працоўным сялянствам.

Шпаркі тэмп разгортваньня калектывізацыі і наступленьня на кулацкія элемэнты выклікае жорсткую барацьбу і супраціўленьне з боку кулацкіх, нэпманскіх і інш. варожых элемэнтаў гораду і вёскі, якія, бачучы ў калектывізацыі свайго сьмяртэльнага ворага, усімі мерамі аказваюць шалёнае супраціўленьне, каб сарваць і скампрамэтаваць ідэю калектывізацыі як праз распаўсюджваньне правакацыйных чутак, так і пралязаньнем ў калгасы і разбурэньнем іх знутры, ужываючы тэрарыстычныя акты, падпальваючы маемасьць, разбазарваючы насеньне, жывёлу і г. д.

Надаючы вялікае значэньне працы па сацыялістычнай перабудове вёскі пры ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі як масавая грамадзкая арганізацыя батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства, павінны прыняць самы актыўны ўдзел у справе калектывізацыі батрацка-бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і ліквідацыі кулацтва, як клясы.

Выходзячы з гэтага Зьезд пастанаўляе:

1. Усю працу камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі накіраваць на разгортваньне і садзейнічаньне суцэльнай калектывізацыі вёскі, прыстасоўваючы ў асноўным усе свае сродкі, вытворчасьць і арганізацыйныя мерапрыемствы да пасьпяховага правядзеньня ў жыцьцё пастаноў Партыі і Ураду аб суцэльнай калектывізацыі вёскі, аказваючы матарыяльную дапамогу батрацтву, беднаце, сем'ям чырвонаармейцаў, чырвоным партызанам, інвалідам і ўдовам гэтых груп сялянства, асабліва пры ўваходзе іх у калгасы і ў калгасах, праводзячы рашучую барацьбу з выпадкамі парушэньня дырэктыў Партыі і Ураду аб калгасным будаўніцтве.

2. Раённым і сельскім камітэтам, асабліва ў раёнах суцэльнай калектывізацыі, на практыцы шырока разгарнуць працу па арганізацыі батрацтва і бядняцка-серадняцкіх мас вакол пытаньня раскулачваньня на базе калектывізацыі, ні ў якім разе не дапушчаючы кулацтва ў калгасы, якія ўсімі мерамі імкнуцца туды пралезьці, каб весьці сваю шкодніцкую працу з мэтай падрыву справы калектывізацыі.

У час правядзеньня чысткі калгасаў і ў штодзённай сваёй працы Зьезд абавязвае раённыя і сельскія камітэты дапамагчы кіруючым органам калгасаў ачысьціцца ад кулацка-нэпманскіх і інш. клясава-варожых элемэнтаў, якія пралезьлі ў калгасы.

3. У час правадзімай выбарнай кампаніі кіруючых органаў калгасаў камітэты павінны прыняць самы актыўны удзел, дабіўшыся таго, каб кіруючы склад калгасаў складаўся пераважна з батрацтва і беднаты, уцягваючы апраўдаўшых сябе на практычнай працы серадлякоў.

4. Надыходзячая вясновая сельскагаспадарчая кампанія, якая цесна ўвязана з пытаньнямі ўсіленьня тэмпаў індустрыялізацыі краіны і рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, павінна прайсьці пры актыўным удзеле камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, а таму Зьезд прапануе ўсім раённым і сельскім камітэтам зараз-жа ўзмацніць працу па падрыхтоўцы да вясновай сельскагаспадарчай кампаніі, прыняўшы ўсе захады да поўнага і своечасовага выкананьня дадзенага Урадам заданьня па нарыхтоўцы насеньня, рамонту інвэнтару, збору попелу, арганізацыі працоўнай дапамогі бядняцкім гаспадаркам, ачыстцы насеньня, правядзеньні аграмінімуму, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на

паглыбленьне працы па правядзеньню кантрактацыі ў калгасах і бядняцка-серадняцкіх гаспадарках, мабілізаваўшы вакол гэтага пытаньня ўвесь свой актыў, батрацка-бядняцкія і серадняцкія масы з ты, каб пры ўдзеле апошніх пасьпяхова правесьці гэту гаспадарча-палітычную кампанію.

5. Камітэты сялянскіх таварыстваў ўзаемадапамогі павінны ўзмацніць і замацаваць працу па аграмаджаньню сродкаў вытворчасьці (таварна-прадукцыйнай жывёлы, насенных фондаў, інвэнтару) тых гаспадарак, якія ўступілі ў калгасы, адначасова вядучы рашучую барацьбу з кулацтвам, якое імкнецца разбазарваць насеньне і жывёлу. Разам з гэтым камітэты павінны арганізоўваць батрацтва і беднату калгасаў на барацьбу з наглядаючыміся момантамі безгаспадарлівасьці ў калгасах.

6. Улічваючы, што ад арганізацыі цягавай сілы залежыць посьпех правядзеньня сельска-гаспадарчай кампаніі ў калгасах, раённым і сельскім камітэтам шырока разгарнуць працу па дапамозе арганізацыі конна-машынных станцый, камплектуючы іх у раёнах суцэльнай калектывізацыі сельскагаспадарчымі машынамі і прыладамі ад сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, бяручы ад калгасаў адпаведныя абавязацельствы аб выплаце камітэтам сапраўднага кошту інвэнтару. Разам з гэтым камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі павінны прыняць актыўны ўдзел у зборы задаткаў на трактары і распаўсюджваньні трактарных абавязательстваў зборам сродкаў сярод сялянства на гэту мэту, цесна ўвязваючы працу па пытаньню збору ўтыльсыравіны, што будзе спрыяць павялічэньню завозу імпартных машын.

8. Пытаньне ўжываньня мясцовага і штучнага ўгнаеньня, асабліва вапны і попелу, недастаткова папулярызавана сярод калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх колаў, у сувязі з чым Зьезд прапануе раённым і сельскім камітэтам шырока папулярызаваць справу скарыстаньня вапны і попелу, ужыўшы рашучыя захады да скарыстаньня вапны і сваечасовай дастаўкі яе на месцы к часу севу.

9. Маючы на ўвазе, што некаторымі вёскамі і калгасамі недастаткова ажыцьцяўляюцца заданьні Ўраду па аграмінімуму, прапанаваць раённым і сельскім камітэтам ужыць самыя рашучыя захады да ажыцьцяўленьня пастаноў агульных сходаў сялян па правядзеньню аграмінімуму як у калгасах, так і ў індывідуальных гаспадарках, паставіўшы канкрэтную задачу, каб кожны член камітэту быў першым застрэльшчыкам у гэтым мерапрыемстве.

10. Улічваючы тое, што ў некаторых мясцох камітэты недастаткова уважліва адносяцца да дапамогі індывідуальным бядняцкім і незаможным серадняцкім гаспадаркам у падрыхтоўцы іх да вясеньняга севу, Зьезд прапануе раённым і сельскім камітэтам ужыць рашучыя меры да забясьпекі вытворчай дапамогай індывідуальных бядняцкіх і незаможных серадняцкіх гаспадарак у час севу.

11. Раённым і сельскім камітэтам шырока разгарнуць працу па абагуленьню ў калгасах таварна-прадукцыйнай жывёлы, разам з гэтым павесьці рашучую барацьбу і растлумачальную працу з выпадкамі адміністраваньня і абагуленьня апошняй каровы, а таксама дробнай жывёлы і птушак, і з разбазарваньнем і ўбоем жывёлы ў гаспадарках яшчэ не ўвайшоўшых у калгас, мабілізаваўшы

вакол гэтага пытаньня батрацтва і бядняцка-серадняцкія масы для рашучай барацьбы з хытрыкамі кулацтва.

Старшыня VI Усебеларускага Зьезду Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі *Л. Жарын.*

Сакратар VI Усебеларускага Зьезду Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі *П. Асіпчык.*

25 лютага 1930 г.
г. Менск.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### Паст. 72. Пра парадак найму і ўмовы працы грамадзкіх пастухоў і падпаскаў.

Для разьвіцьця арт. 17 пастановы СНК БССР за 16/XI-1929 г. „Пра парадак ужываньня часовых правіл, зацьверджаных СНК СССР, аб ужываньні дапаможнае наймовае працы ў сялянскіх гаспадарках“ (З. З. БССР 1929 г., № 43, арт. 250), Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Гэта пастанова пашыраецца на грамадзкіх пастухоў і падпаскаў, якія працуюць па найму ў зямельных грамадах, а таксама ў груп уладароў жывёлы.

Умовы працы грамадзкіх пастухоў і падпаскаў, якія працуюць па найму ў гарадох, рэгулююцца Кодэксам аб Працы.

Пастанова гэта не распаўсюджваецца на пастухоў адзіночак, якія працуюць у асобных сялянскіх гаспадарках.

2. Умовы найму пастухоў і падпаскаў вызначаюцца па узаемнай згодзе наймальнікаў (зямельнай грамады, групы ўладароў жывёлы) з пастухамі і падпаскамі, альбо з Прафэсійным Саюзам Сельскагаспадарчых і лясных рабочых, дзейнічаючым ад іх імя. Пры найме пастухоў і падпаскаў наймальнікі павінны зрабіць з імі альбо з Прафэсійным Саюзам працоўны дагавор і выдаць разьліковы ліст па ўстаноўленай НК Працы форме.

3. Усе працоўныя дагаворы, якія пагаршаюць становішча пастухоў і падпаскаў у параўнаньні з гэтай пастановай, незаконны і ня маюць сілы.

4. Зямельныя грамады і групы ўладароў жывёлы, каб весьці перагаворы аб найме пастухоў і падпаску і рабіць з імі працоўныя дагаворы абіраюць ўпаўнаважаных, якім даюцца прыгавары агульных сходаў, пратаколы аб іх абраньні, пасьведчаныя сельскім саветам.

Сход грамадзян, якія наймаюць пастуха, склікаецца па даручэньні сельскага савету адным з яго членаў.

Выбары ўпаўнаважанага робяцца і лічацца законнымі, калі лік грамадзян, якія адмовіліся і адсутнічалі, ня будзе перавышаць 50% усіх наймальнікаў.

Колькасьць упаўнаважаных павінна быць наступная: да 25 наймальнікаў—адзін, больш 25—2.

Выбраныя ўпаўнаважаныя ня маюць права адмаўлянца ад выкананьня сваіх абавязкаў.

5. У выпадку патрэбы найму падпаскаў на падмогу пастуху, наём падпаскаў робіцца наймальнікам па згодзе з пастухом.

6. У працоўным дагаворы павінны быць паказаны:

а) склад стада (аднолькавае альбо мяшанае) і колькасьць жывёлы у стадзе: буйнай і дробнай;

б) тэрмін найму (працяжнасьць тэрміну найму), таксама дзень і месяц найму і сканчэньня тэрміну найму;

в) час пачатку і сканчэньня пасьбы днём і ноччу;

г) парадак і месца збору жывёлы перад выганам на пасьбу і прыгону з пасьбы;

7. Забараняецца наём пастухоў і падпаскаў менш 14 год.

8. Заработная плата пастухам і падпаскам устанаўляецца ў працоўным дагаворы кожнаму ў паасобку і ня можа быць ніжэй дзяржаўнага мінімуму, устаноўленнага для данай мясцовасьці; выплата зарплаты павінна быць не радзей 1 разу у месяц.

9. Выплата заработнай платы пастухам і падпаскам робіцца ўпаўнаважаным наймальніка, якія павінны своечасна да наступленьня тэрміну выплаты заработнай платы сабраць яе з уладароў жывёлы, пры чым заработная плата павінна разьмяркоўвацца па клясаваму прынцыпу, з такім разьлікам, каб кулакі плацілі больш за сераднякоў, а серадняки больш за беднякоў.

У першыя месяцы ўпаўнаважаны зьбірае грошы з кулакоў і больш заможных, потым з сераднякоў, а ў апошнюю чаргу—з беднякоў.

10. Усе разьлікі па заработнай плаце з пастухамі і падпаскамі запісваюцца ў разьліковым лісьце пры выплаце зарплаты.

11. Наймальнікі праз свайго ўпаўнаважанага павінны даваць бясплатна пастухам і падпаскам патрэбную рабочую вопратку і абутак, прычым нормы і якасьць іх устанаўляюцца па згодзе старон у працоўным дагаворы, але ня менш як па 1 пары скураных ботаў і па аднаму плашчу пастуху і падпаску на сэзон.

Рабочая вопратка і абутак не залічваюцца ў заработную плату і пасьля сканчэньня пасьбы астаюцца ў пастухоў і падпаскаў.

12. Пастухам і падпаскам, якія ня маюць свайго жыльля, наймальнікі праз свайго ўпаўнаважанага павінны даць памяшканьне, годнае для жыльля.

Парадак дачы пастухам і падпаскам жыльля і харчоў устанаўляецца па згодзе старон.

13. Наймальнік павінен даваць пастухам і падпаскам праз кожныя 5 дзён—1 дзень для адпачынку і звальняць іх ад работы ва ўстаноўленыя законам рэвалюцыйныя сьвяты. У выпадку немагчымасьці даць пастухам і падпаскам дзень адпачынку, наймальнік павінен аплачваць за работу ў гэтыя дні ў падвойным разьмеры.

Замена рэвалюцыйных сьвят іншымі днямі забараняецца.

14. Наймальнікі ня маюць права рабіць самавольна ўтрыманьні і вылікі з заработнай платы пастухоў і падпаскаў.

За патравы, пераненьне і згубу жывёлы, якія зробяцца пры нэрвовым узбуджэньні ў час „гілю“ і „паляваньня“ пастухі і падпаскі не адказваюць.

15. Калі ў стада пушчаецца жывёла, якая б'ецца, уладары жывёлы павіны папярэджваць аб гэтым пастуха і рабіць патрэбныя захады забясьпекі, напрыклад, набіваць на рагі дошкі і да т. п.

16. Пастухі ня маюць права прымаць у стада жывёлу, якая не належыць наймальнікам, без дазволу на гэта ўпаўнаважанага.

17. Звольніць пастуха і падпаска да скончэньня тэрміну працоўнага дагавору наймальнік мае права толькі тады, калі ёсьць на гэта важная прычына з абавязковым папярэджаньнем аб гэтым звальняемага ня менш як за 2 тыдні. У выпадку звальненьня пастухоў і падпаскаў раней тэрміну найму—наймальнік павінен заплаціць зволенаму заработную плату за прапрацаваны час і выхадную дапамогу ў разьмеры, якая вызначана ў працоўным дагаворы, але ня менш 2-х тыднёвага заработку. Пастухі альбо падпаскі пры ўходзе ад наймальніка павінны папярэдзіць упаўнаважанага аб сваім уходзе за 2 тыдні.

18. У выпадку хваробы пастуха альбо падпаска, наймальнік павінен вызваліць яго ад работы, даваць жыльлё і харчы:

а) увесь час хваробы, але ня больш 2 месяцаў, калі пастух наняты на тэрмін больш 6 месяцаў і працаваў у наймальніка больш 1 мес;

б) увесь час хваробы, але ня больш як на працягу 1 месяца, калі пастух альбо падпасак наняты на тэрмін да 6 мес. і працаваў менш месяца.

19. Рабочы час пастухоў альбо падпаскаў ня можа перавышаць 10-ці гадзін у дзень.

20. Канфлікты, якія ўзьнікаюць пры ўжываньні наймове працы пастухоў і падпаскаў, вырашаюцца ў міравой камэры пры сельскім савеце альбо ў працсэсіі.

21. Наймальнікі, віноўныя ў невыкананьні гэтай пастановы, прыцягваюцца да судовай альбо да адміністрацыйнай адказнасьці праз накладаньне штрафу да 100 руб.

22. З выданьнем гэтай пастановы касуюцца: а) пастанова НКП за I/IV-1927 г. № 50 (Бюл. СНК 1927 г. № 7), б) абежнік НКП за 27/IX-1928 № 60 (Бюл. СНК 1928 г. № 12) і в) пастанова НКП за 26/XII-1926 г. за № 81 (Бюл. СНК 1928 г. № 15).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *П. Саламонаў.*

Ст. Сельска-Гаспадарчы Інспэктар НКП БССР *В. Марозаў.*

20 сакавіка 1930 г.
№ 21.

**Паст. 82. Пра скасаваньне пастановы НКП і НКЮ БССР „Пра адказнасьць за парушэньне пастановы НКП БССР“ пра парадак найманьня і ўмовы працы грамадзкіх пастухоў і падпаскаў.**

Народны Камісарыят Працы БССР па згодзе з НКЮ БССР пастанаўляе лічыць пастанову НКП і НКЮ за 7/VIII-1928 г. № 53 „Пра адказнасьць наймальнікаў за парушэньне пастановы НК Працы БССР „Пра парадак найманьня і ўмовы працы грамадзкіх пастухоў і падпаскаў“ (Бюл. СНК 1928 г. № 7) страціўшай сілу.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *П. Саламонаў.*

31 сакавіка 1930 г.
№ 24.

## нструкцыя Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня, Народнага Камісарыяту Фінансаў і Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемападамогі БССР.

### Паст. 83. Пра ўжываньне пастановы ЦВК і СНК БССР за 27 лютага 1930 г. „Пра дапамогу сялянкам у зьвязку з цяжарнасьцю і родамі“ (З. З. БССР 1930 г., № 12, паст. 86)

1. Права на дапамогу ў зьвязку з цяжарнасьцю і родамі маюць наступныя сялянкі, якія не пазбаўлены выбарнага права:

а) незастрахаваныя батрачкі і жонкі незастрахаваных батракоў;

б калгасьніцы—батрачкі, бяднячкі і сераднячкі:

в) сялянкі—беднячкі індывідуальных гаспадарак.

2. Дапамога выдаецца да часу родаў, але не раней як за месяц да родаў, альбо ў працягу месяца пасьля родаў.

Дапамога выдаецца таксама пры выкідышах або нараджэньні мёртвага дзіцяці.

3. Для атрыманьня дапамогі патрабуецца вусная альбо пісьмовая заява сялянкі і наступныя даведкі:

а) ад доктарскага аб акушорскага пункту аб апошнім месяцы цяжарнасьці, калі дапамога выдаецца да родаў, альбо даведка аб выкідышы;

б) ад органаў ЗАГС‘у або сельсаветаў, калі дапамога выдаецца пасьля родаў.

4. Заявы аб выдачы дапамогі ў зьвязку з цяжарнасьцю і родамі падаюцца ў сельскі камітэт сялянскіх таварыстваў узаемадамогі, які і вызначае ў кожным паасобным выпадку разьмер дапамогі ў адпаведнасьці з п. 5 гэтай Інструкцыі.

Заявы павінны разглядацца не пазьней тыдня з часу іх падачы і дапамога павінна выдавацца зараз-жа, але не пазьней 2-х дзён пасьля пастановы аб выдачы дапамогі.

5. Разьмер дапамогі ўстанаўляецца сельскімі камітэтамі сялянскіх таварystваў узаемадапамогі ў кожным выпадку асобна ў залежнасьці ад матарыяльнага становішча, але ня менш 7 руб. і ня больш 12 руб. на выпадак.

6. У разглядзе заяў аб выдачы дапамогі камітэтамі сялянскіх таварыстваў ўзаемадапамогі ўдзельнічаюць прадстаўнікі ад сельскай камісіі па палепшаньні працы і быту жанчын.

7. Кантроль і нагляд за правільнасьцю вызначэньня дапамогі і сваечасовасьцю яе выдачы ўскладаецца на адпаведныя саветы і выканаўчыя камітэты.

8. Скаргі на пастановы камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, зьвязаныя з выдачай дапамогі (адмова ў выдачы, вызначэньне няправільнага разьмеру дапамогі, выдача дапамогі асобе, якая ня мае права на дапамогу і г. д.) падаюцца адпаведнымі асобамі і зацікаўленымі арганізацыямі ў сельскія саветы, пастановы якіх па гэтых пытаньнях зьяўляюцца канчатковымі.

9. Крыніцай дапамогі сялянкам у зьзязку з цяжарнасьцю і родамі служыць спэцыяльны фонд, які ўтвараецца:

а) з спэцыяльных бюджэтных асыгнаваньняў;

б) з 15% ад налічаных членскіх уносаў сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі ў 1929/30 г.;

в) з 1% ад прыбыткаў спажывецкай сыстэмы капярацыі за 1928-29 г;

г) з 10% ад сум самаакладаньня, паступаючых у 1929/30 г.

д) з процантаў ад захаваньня фондаў, вызначаных на дапамогу жанчынам, на бягучых рахунках у крэдытных установах.

10. Перадача 10% з сум самаабкладаньня ў азначаны фонд робіцца толькі на падставе пастаноў аб гэтым агульных сходаў насельніцтва, што і павінна быць аформлена зараз-жа пасьля атрыманьня гэтай інструкцыі.

11. Фонд дапамогі сялянкам у зьвязку з цяжарнасьцю і родамі знаходзіцца ў распараджэньні сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, і сродкі гэтага фонду захоўваюцца на асобных процантных бягучых рахунках адпаведных камітэтаў у сельскагаспадарчых крэдытных таварыствах альбо ва ўстановах Дзяржбанку або дзяржаўных ашчадных кас.

*Увага.* Пад словам „сельскіх“ усюды трэба разумець таксама местачковыя камітэты і саветы.

12. Перадача сродкаў з крыніц, пералічаных у п. 9, у фонд дапамогі робіцца ў наступныя тэрміны:

а) папаўненьне фонду сродкамі за лік спэцыяльных бюджэтных асыгнаваньняў, а таксама за лік адлічэньняў ад прыбыткаў спажывецкай капярацыі, робіцца праз раённыя камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі парадкам, які паказан у п. 13;

б) адлічэньні ад сумы членскіх уносаў сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, налічаных на 1929/30 г., робяцца самімі камітэтамі не пазьней як праз 3 дні пасьля атрыманьня інструкцыі, і адлічаныя такім чынам сумы пералічаюцца на спэцыяльны процантны бягучы рахунак, на якім будуць захоўвацца сродкі фонду дапамогі сялянкам.

в) 10% ад сум самаабкладаньня, паступіўшых на тэрыторыі данага сельсавету за час з 1 кастрычніка 1929 г. да першага дня месяца, у якім гэта інструкцыя будзе атрымана на мясцох,— зараз-жа пасьля атрыманьня інструкцыі; адлічаныя сумы перадаюцца сельсаветамі на процантны бягучы рахунак мясцовага сельскага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі (глядзі п. 11): у далейшым гэтыя адлічэньні робяцца саветамі штомесяц з перадачай грошай на бягучыя рахункі сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі не пазьней 5 дня месяца наступнага за тым, за які адлічэньні робяцца;

13. Для раўнамернага разьмеркаваньня паміж паасобнымі сельсаветамі аднаго раёну ўсіх сродкаў на аказаньне дапамогі сялянкам у сувязі з цяжарнасьцю і родамі ўтвараюцца раённыя фонды дапа-

могі; гэтыя фонды знаходзяцца ў непасрэдным распараджэньні раённых камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і захоўваюцца на спэцыяльным процантным бягучым рахунку камітэту ў крэдытных установах, у якіх захоўваюцца ўласныя сродкі камітэту.

Раённы фонд дапамогі складаецца:

а) з спэцыяльных бюджэтных асыгнаваньняў, якія перадаюцца на паказаны бягучы рахунак раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі праз акруговых упаўнаважаных камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі;

б) з аднаразовых адлічэньняў ад прыбыткаў спажывецкай капярацыі, якія ўносяцца апошняй не пазьней 1 мая 1930 г. непасрэдна на спэцыяльны бягучы рахунак раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі;

в) з адлічэньняў ад сум самаабкладаньня, прынятага на мэты раённага значэньня і паступаючых у касу раённага выканаўчага камітэту; у гэтых выпадках адлічэньні робяцца раённым выканаўчым камітэтам ад сум, паступіўшых за час з 1 кастрычніка 1929 г. па 1-ы дзень месяца, у якім будзе атрымана гэта інструкцыя—аднаразова, а ў далейшым—штомесяц, не пазьней 5 дня месяца наступнага за тым, за які робяцца адлічэньні; адлічаныя сумы зараз-жа перадаюцца на спэцыяльныя бягучыя рахункі адпаведных раённых камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

14. Фонды дапамогі, якія ўтвараюцца пры раённых камітэтах сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, прызначаюцца выключна для рэгуляваньня фондаў дапамогі сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, а таму ніякіх выдаткаў на іншыя мэты з раённага фонду рабіць не дазваляецца.

15. Перадача сродкаў з раённага фонду дапамогі ў такі-ж сельскі фонд вытвараецца раённымі камітэтамі сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі паквартальна, а ў выключных выпадках — пры выдаткаваньні ўсіх сродкаў сельскага фонду; папаўненьне апошняга павінна вытварацца раённым камітэтам не пазьней як на працягу 5-ці дзён пасьля атрыманьня заяўкі.

16. Сельскія камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі на сумы выдадзенай імі дапамогі павінны захоўваць у сябе дакумэнты, пералічаныя ў п. 3, якія паслужылі падставай для выдачы дапамогі, а таксама і расьпіскі асоб, атрымаўшых грошы. Усе гэтыя дакумэнты прад'яўляюцца пры праверцы правільнасьці выдаткаваньня фонду.

17. Сельскія камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі пасылаюць у раённыя камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі 2 разы ў год не пазьней 15 красавіка і 15 кастрычніка справаздачнасьць аб прынятых і выдадзеных сродках па фонду дапамогі сялянкам у сувязі з цяжарнасьцю і родамі, а раённыя камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі не пазьнейй як 1 мая і 1 лістапада падаюць у раённыя выканаўчыя камітэты сводную па раёну справаздачу па фонду. Раённыя выканаўчыя камітэты дасылаюць весткі аб паступленьні і расходваньні фондаў у Народны Камісарыят Сацыяльнага Забясьпечаньня па формах, выпрацаваных апошнім.

18. Кантроль за складаньнем фондаў, рэгулярным паступленьнем сум з усіх крыніц, паказаных у п. 9, і правільным расходваньнем гэтых фондаў ускладаецца на адпаведныя саветы і выканаўчыя камітэты і іх рэвізійныя камісіі.

Народны Камісар Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР *І. Самойлаў.*

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

Старшыня Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі БССР *Д. Гайдук.*

1 красавіка 1930 г.




Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Друкарня Беларускае Акадэміі Навук. Зак. № 2943. Галоўлітбел № 1572. Тыраж 6500 экз.

Цана 15 кап.

# ДА ЎСІХ ПАДПІШЧЫКАЎ

## на ЗБОР ЗАКОНАЎ БССР і БЮЛЕТЭНЬ СНК БССР

Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР паведамляе, што з 1930 г. Збор Законаў БССР і Бюлетэнь СНК БССР будуць рассылацца падпішчыкам **не па індывідуальных адрасох з наклейкаю іх, а па картачнай сыстэме, без наклейкі індывідуальных адрасоў.**

У выпадку неатрыманьня якога-небудзь нумару Збору Законаў БССР і Бюлетэню СНК БССР належыць зьвяртацца да мясцовай паштова-тэлеграфнай установы.

Абвесткамі ў абодвых паказаных выданьнях у апошніх нумарох за 1929 г. было прапанавана раённым і акруговым выканаўчым камітэтам, народным камісарыятам і цэнтральным установам БССР даць заяўкі на паказаныя выданьні для ўсіх устаноў раённага, акруговага і рэспубліканскага значэньня. Калі-ж якая-небудзь установа ня будзе атрымоўваць з 1930 г. паказаных выданьняў, яна павінна праверыць, ці ўнесена яна была ў адпаведную заяўку і калі не—прасіць аб унясеньні яе ў дадатковую заяўку і накіраваньні гэтае заяўкі ў Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР—Менск, Чырвонаармейская вуліца, № 3.

**Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР**